# МАЛАДЫ АРАТЫ

Часопіс сялянскай моладзі

Орган ЦКЛКСМБ





Ф. Скарына

Першы беларускі вучоны і друкар

№ 14. 1925 г

# УРАДАВАЕ ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ.

**У ноч на 31-е кастрычніка ад разрыву сэрца памёр пасьля опэрацыі старшыня Рэволюцыйнага Вайскавога Савету СССР Міхаіл Васільевіч Фрунзэ.**

**Саюз ССР страціў у асобе памершага практычнага, загартаванага ў рэволюцыйнай барацьбе правадыра рэволюцыйнага народу, страціў барацьбіта, які ўсё сваё жыцьцё, ад падпольнага гуртка да вялікіх боек у грамадзянскай вайне, быў на самых небясьпечных, перадавых пастох.**

**Армія і флёта страцілі аднаго з лепшых знаўцаў вайсковае справы, організатара ўзброеных сіл рэспублікі, непасрэднага кіраўніка перамогі над Урангелем, організатара першага пабеднага націску супроць Калчака.**

**У асобе пакойнага зышоў у магілу самы выдатны член ураду, адзін з лепшых організатараў і кіраўнікоў савецкае дзяржавы.**

**Народ і савецкі ўрад мае вельмі вялікую страту якраз у той момант, калі творчыя замыслы Фрунзэ ў справе організацыі сіл рэспублікі сталі з вялікім посьпехам ажыцьцяўляцца і гэтым забясьпечваць дзяржаве абарону яго граніц, а народу—магчымасьць мірнае працы і будаўніцтва.**

**Страта Фрунзэ асабліва зьяўляецца цяжкаю ў сучасны момант, калі ў зьвязку з гаспадарчым аднаўленьнем дзяржавы і ўзростам спачуваньня да нас працоўных усяго сьвету ўзрастае нянавісьць сусьветнае буржуазіі да рэспублікі саветаў.**

**Працоўныя СССР ніколі не забудуць заслуг тав. Фрунзэ перад пролетарскаю рэволюцыяй.**

**31-га кастрычніка 1925 г.**

---

## Да рабочых, чывонаармейцаў, сялян, да ўсіх працоўных Беларусі.

Таварышы!

Памёр таварыш Міхаіл Васільевіч Фрунзэ—Народны Камісар па Вайсковых і Марскіх Справах, член Цэнтральнага Комітэту РКП, стары, моцны і верны член бальшавіцкае партыі. З вялікім жалем перадаем мы гэту вестку працоўным Беларусі. У асобе тав. Фрунзэ адышоў у магілу ня толькі адзін з лепшых людзей усяго нашага савецкага краю, але і адзін з пачынальнікаў і правадыроў лютаўскае рэволюцыі ў Беларусі.

Прыгожае было жыцьцё гэтага няўхільнага рэволюцыянэра. З юнацкіх дзён аддае ён сваё жыцьцё рэволюцыйнай барацьбе. У падпольлі ён організуе і навучае іванава-вазьнясенскіх пролетараў.

Разам з маскоўскімі рабочымі ідзе ў збройную бойку проці прыхільнікаў цара, бярэ актыўны ўдзел у паўстаньні ў сьнежні 1905 году. Перамогшы рэволюцыю, царскі ўрад засуджвае яго да кары сьмерцю, якая заменьваецца доўгімі гадамі катаржных работ. Але праз мукі катаргі т. Фрунзэ нясе сваю адданасьць справе пролетарыяту, сваю загартаваную волю—змагацца за вызваленьне працоўных. І, вышаўшы на волю, ён ізноў уваходзіць у бальшавіцкія рады барацьбітоў. Адзін з організатараў Менскае бальшавіцкае організацыі,—кіраўнік бальшавікоў Паўночна-Заходняга фронту, ізноў правадыр рабочых іванава-вазьнясенцаў; кіраўнік барацьбы проці Калчака, Дзянікіна, Урангеля; гэрой Перакопу; старшыня Рэўваенсавету, правадыр і будаўнік Чырвонае арміі—на гэтых цяжкіх пасадах рабочая кляса і сялянства бачаць т. Фрунзэ ў цяжкія і вялікія гады рэволюцыі. Ён быў сапраўдным прадстаўніком выхаванага Леніным жалезнага пакаленьня старых бальшавікоў, на прыкладзе якіх вучацца і яшчэ доўга будуць вучыцца рэволюцыянэры ўсіх краёў.

Тав. Фрунзэ навек упісаў сваё імя ў гісторыю нашае вызваленае Беларусі. Занесены сюды вайною, ён з першых дзён лютаўскага перавароту стаіць у першых радох барацьбітоў за нашу справу. Памятаючы словы нашага настаўніка Энгельса, што адзіны залог волі—вінтоўка ў руках рабочага, ён становіцца на чале менскае міліцыі, узбройвае рабочых, бязьлітасна руйнуе рэшты царскага рэжыму. З тою-ж цьвёрдасьцю, рашучасьцю і ўпартасьцю, якімі ён кіраваўся ўсюды і на ўсіх пасадах, т. Фрунзэ пачынае барацьбу з меншавікамі, з эс-эрамі, з бундаўцамі і з тымі непраўдзівымі „прыяцелямі" беларускага народу, якія пад сьцягам „назалежнае Беларусі" падначальвалі яе воўчай ігрaі заходніх імпэрыялістых.

Гарачая рэволюцыйная дзейнасьць тав. Фрунзэ высоўвае яго на пасаду старшыні Беларускага Савету Сялянскіх Дэпутатаў. Адначасна ён вядзе напружную партыйную працу, складаючы разам з невялікаю групаю прыяцеляў бальшавіцкую організацыю—тую бальшавіцкую організацыю, ад якое комуністычная партыя Беларусі вядзе свой род. Наша партыя і савецкая ўлада Беларусі ўшаноўваюць памяць тав. Фрунзэ, як аднаго з сваіх грунтапаложнікаў і першых будаўнікоў.

Таварышы партыйцы і комсамольцы! Няхай будзе для нас вобраз тав. Фрунзэ прыкладам таго, як павінен працаваць, змагацца, ваяваць сапраўдны рэволюцыянэр-бальшавік.

Таварышы рабочыя і сяляне! Няхай будзе абвеена вашай гарачай любасьцю памяць аб ім. Ён быў адным з самых верных барацьбітоў за тое, каб працоўны сам стаў гаспадаром свайго лёсу, вольным ад прыгнечаньня эксплёататараў.

**Вечная памяць нашаму тав. Фрунзэ!**

**Цэнтральны Камітэт Комуністычнае партыі (бальшавікоў) Беларусі.**

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 14 | Кастрычнік 1925 г. | Менск



## Францыск Скарына і беларускае адраджэньне.

У сакавіку месяцы гэтага году споўнілася роўна 400 год існаваньня друку на абшарах Беларусі; роўна 400 год таму назад (у 1525 г.) ў Вільні вышла першая друкаваная кніжка—„Апостал“—Францыска Скарыны.

Францыск Скарына нарадзіўся ў Полацку каля 1490 г.; паходзіў з гандлярскага стану. Першапачатковую асьвету атрымаў ён у сябе ў Полацку, але, відаць, гэта асьвета не задаволіла яго: беларускі дзеяч імкнецца на азахад, каб там удасканаліць сваю адукацыю. Спачатку ён вучыцца ў Кракаве (1504-1506 г.) і канчае Кракаўскі унівэрсытэт з званьнем бакалаўра*); потым славуты палачанін падаецца яшчэ далей на захад, у Італію, і ў 1512 г. атрымоўвае ступень доктара лекарскіх навук у Падуі.



Ф. Скарына за працаю.

Наш беларускі дзеяч, гэткім чынам, стаяў на роўні заходня-эўропэйскай культуры свайго часу; яго ўнутраное жыцьцё характарызуецца бязупынным імкненьнем да сьвятла веды і навукі; смага веды перамагае ў яго ўсе надворныя перашкоды, з далёкага кутка Беларусі яна кідае яго нават у Італію, у гэтую калыску эўропэйскай культуры і цывілізацыі.

Але самае галоўнае, Фр. Скарына імкнецца зьвязаць навуку з жыцьцём; свае навуковыя веды ён не хавае пры сабе дзеля асабістай услады, а нясе іх на карысьць роднаму народу.

Францыск Скарына ўвесь аддаецца культурна-асьветнай справе айчыны ў духу і напрамку свайго часу. У 1517 г. ён распачынае друкарскую працу ў Празе Чэскай; ім на беларускай мове выдаюцца ў працягу двох з лішнім гадоў „Псалтыр“, „Біблія“ (кніжкі старога закону). У 1525 г. друкарская праца пераносіцца нашым дзеячом на тэрыторыю Беларусі, і ў Вільні ў гэтым годзе выдаецца „Апостал“ і крыху пазьней „Малая падарожная кніжыца“, якая заключала ў сабе розныя царкоўныя службы. Невядома дакладна, па якіх прычынах Фр. Скарына хутка спыняе сваю чыннасьць у Вільні, і апошнія гады яго жыцьця хаваюцца для нас у цемры невядомасьці.

Фр. Скарына ў сваёй дзейнасьці быў чалавекам свайго часу. Стоячы на рубяжы дзьвёх эпох—сярэднявякоў'я і новага часу—Францыск Скарына і ў сваім сьветапоглядзе адбівае адзнакі гэтых абедзьвюх эпох. У сярэднія вякі, калі панавала натуральная гаспадарка, тэхніка была вельмі слабая, чалавек залежаў ад стыхійных сіл прыроды; на падставе гэтай залежнасьці разьвіваецца рэлігійны настрой, чалавек адчувае сябе цацкаю ў руках нейкай таемнай сілы. Наш беларускі дзеяч падзяляе гэту рэлігійнасьць свайго часу і лічыць, што крыніца ўсіх навук ёсьць біблія; вось чаму ён, задаўшыся мэтамі дапамагчы культурна-асьветнай справе роднага народу, перакладае на беларускую мову і друкуе не якую-небудзь іншую

*) ...е сярэднявяковага вучонага.

кніжку, а ўласьне біблію. У дадзеных адносінах ён тыповы прадстаўнік сярэднявяковай навукі—схолястыкі.

Фр. Скарына, паколькі ён і па самым сваім пахаджэньні і па напрамку сваёй чыннасьці зьвязаны з гандлёвым капіталам, выяўляе характэрныя адзнакі гуманістага, ён цікавіцца ведамі ў прыродзе, вывучае мэдыцыну, робіцца доктарам лекарскіх навук.

Нягледзячы на тое, што Ф. Скарына зьяўляецца прадуктам гандлёвага капіталу, ці інш. кажучы, прадуктам буйнай і дробнай буржуазіі, усё-ж такі мы сёньня сьвяткуем



Беларускі Дзяржаўны Музэй у Менску.

юбілей выдадзеных ім кніжок, як паказчыкаў тагочаснай культуры, якаа зьявілася ў нашыя дні грунтам для разьвіцьця беларускай рабоча-сялянскай культуры.

Чыннасьць Фр. Скарыны мае для нас агромністае значэньне. Друк заўжды служыць паказаньнем культурнага разьвіцьця старонкі. Хронолёгічна біблія Фр. Скарыны займае трэцяе месца (першае належыць нямецкай бібліі 1455 г., другое—чэскай 1488 г.). Гэта сьведчыць аб досыць высокім культурным разьвіцьці Беларусі ў старажытныя часы: нав старонка мала чым адставала ад Заходн Эўропы і на некалькі дзесяцілецьцяў вып рэдзіла Маскоўшчыну (там першая друкава ная кніжка зьявілася ў 1573 г.).

Выданьні Фр. Скарыны, апроч таго, вызначаюцца вялікімі мастацкімі вартасьцям у іх зьмешчаны шматлікія гравюры, ро нымі малюнкамі аздоблены загалоўныя літар У бібліі нашага дзеяча гэтак сама дадзен першыя спробы сылябічнага вершаваньн А самае галоўнае, што ўся дзейнасьць Ф Скарыны прасякнута была сьвядомай ідэі служэньня „люду простаму посполітаму“.

Беларуская культура, закрасаваўшы ў часы Фр. Скарыны, дзякуючы цэламу шэрагу вядомых прычын соцыяльнага і політычнага характару прышла ў заняпад. Але ў нашы часы, пад сьцягам Вялікай Кастрычнікавай Рэволюцыі, адбываецца адраджэньне гэтай культуры—культуры працоўных мас па сутнасьці. Дзей насьць Фр. Скар ў мінулым слу магутнай гісторы культурнай падставай справы беларуск адраджэньня ў сучасным. Адраджаць мож толькі тое, што калісьці існавала; прац Фр. Скарыны, гэткім чынам, магутны за клад таго, што беларуская культура, нацыя нальная па форме і пролетарская па зьместу зноў закрасуе і ўнясе свой багаты ўкл у агульна-людзкую скарбніцу.

Профэсар **М. М. Піотуховіч.**

## Гулкім рэхам май вясёлы.

Гулкім рэхам май вясёлы
Распляскаўся па садох.
Мой гармонік комсамоліць
На усіх сваіх ладох.
Як зярняты, неба зоры
Пазганяла у пасы.
На ўсю вёску загавораць
Мілагучна галасы.

І пад звон іх пераліваў
Сьціхне вецер, як няма.
Эх ты, моладасьць гульліва,
Разьвясёлая, як май!
Заліваецца гармонік
Па-над клёнам маладым.
Сэрца песьняю гамоніць,
Ў сьпевах топяцца сады.

Ці-ж журыцца нам сягоньня,
Комсамольцам удалым?
Расквітнелі нашы гоні,
Не ўзрасьце ужо палын.
Не зламаць віхуры
Калі з сталі вырас
Гэй вы, песьні мае
Птушкі новых, вс

А. Як

# ВЕРШЫ.

## Маладняк.

Тут учора бура выла нам,
Вацер-чмут гайсаў з кутка ў куток,—
Стары бор з карэньнем выламан,
Сумны шум яго навекі змоўк.

Заіскрыла сонца—вір агню...
Буралом спаліла з гольлямі!..
Зьніклі хмары... і пад чырваньню
Ўсе прасторы сталі голымі.

А сягоньня чутны водгукі:
Нам расьці—дык маладняк!..
Толькі тут узьняцца мог такі
Волат-лес—наш маладняк.

Стройны лес і горды выглядам,
Нібы раць, што мкнецца ў бой,
Яго шум—што голас: „выедам
Пастаяць за праўду галавой!“

Маладняк сваімі лісьцямі
Шапаціць нам казку-вольніцу...
Помнім, помнім, як калісьці мы
Чорных дзён стрымалі коньніцу...

Перастаў і сумны сьпеў гусьці,
Дні прышлі—ажно ня верыцца...
Хто-ж адвагі знойдзе, сьмеласьці
З сілай моладзі памерыцца?!

М. Чарот.

## Кастусь Каліноўскі.

Беларусі паўстаўшай—слава,
Беларусі ў пояс паклон.
Хай мінулае цемра заслала,
А змаганьня не забыць ніколі.

Эх, Кастусь... Балоты памерыў,
А ў лясох, як у бацькавай хаце...
Беларусь табе паверыла—
За табою пашла змагацца.

Беларусь—не царам маскоўскім,
Беларусь—не варшаўскім панам!..
Зазьвінелі ў лесе бярозкі,
Дуб стары галаву падняў.

Забуяніла ў полі рэха:
—За мужыцкую праўду ў бой!..
Ня Ільля па хмарах праехаў,
Не Пятро зазваніў булавой.

А пасьля—вастрожныя краты...
Што з таго, што жыцьця ня стане.
Твае сьлёзы важыць на караты:
—Залілі, загасілі паўстаньне!..

Скалыхнуўся натоўп на Лукішках:
—На Беларусі няма шляхты!..
Можа кат успомніў за кілішкам,
Як памёр мяцежнік пракляты.

Маліцца—ня наша справа.
Кастуся мы папростаму ўспомнім:
Беларусі паўстаўшай—слава,
Беларусі ў пояс паклон.

Ал. Дудар.

# Батракі.

*(Адрывак з поэмы).*

I.

Я радзіўся ў вёсцы дрымотнай,
У закуранай нізенькай хаце;
Мне дзяцінства прыпала гаротным,
Не галубіла меншага маці.
    Наша мама сканала, галубка,
    У той год, калі я нарадзіўся:
    Засталіся мы дзеці-малюткі,
    Матчын догляд за намі спыніўся...
Мне прашло гадоў сем з ка...
Не пазнаў я гадочкаў...
А пазнаў я разле...
Пасьціў з р...
    Я...

Ў мяне сябрам—віхрасты Сымонка,
Абодва у рызьзі хадзілі,
Мы з ім гнёзды паролі вароньнія
І зайцоў маладзенькіх лавілі.
    А не ў сад у папоў убяромся,
    І грушу абчысьцім да званьня,
    У вульлях суседа пароліся
    Й рыбу лавілі ў сінь-раньня.
А ноччу блакітнай ў начлезе,
Чаго не ... ...ям!

# Шлях Маладняка.

*Да другіх угодкаў працы Ўсебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк".*

Усебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк" 28 лістапада г. г. сьвяткуе другія ўгодкі свае творчае і грамадзкае працы. Гэта сьвята „Маладняка" зьяўляецца наогул сьвятам маладой пролетарскай беларускай культуры, якая за апошнія годы хутка й шырока пачала разьвівацца. Дзякуючы дапамозе ў гэтым разьвіцьці савецкай улады і комуністычнай партыі Беларусі, беларуская культура ўжо заняла пэўнае месца сярод культур іншых народаў. Беларуская культура ўжо мае такія дасягненьні, якія выяўляюць сабою каштоўнасьць у агульна-людзкім абхваце. Ёю ўжо цікавяцца ня толькі, як этнографічным матэрыялам, а як каштоўным продуктам творчасьці абуджаных і вызваленых нацыянальна і социяльна раней прыгнечаных і забітых сіл працоўнага беларускага народу. Так, дасягненьні беларускага мастацтва дэмонструюцца сёлета ўжо на міжнароднай мастацкай выстаўцы, якая адбываецца ў Парыжы (Францыя). У 1923 г. на Ўсесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўцы Беларусь таксама паказвала народам Саюзу свае дасягненьні ў галіне матэрыяльнай культуры. Усё ге... беларус... культура ўзраст... мы йдзе... св...



Беларускія тыпы.

а іменна, задачу аўладаньня культурай. Дзеля гэтага патрэбна было зьбіраньне і аб'яднаньне культурных сіл. І вось першым такім аб'яднаньнем і зьявіўся „Маладняк", аб'яднаньне маладых беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў, якое заложылася 28 лістапада 1923 году ў складзе 6 асоб. Але гэтымі-ж асобамі ня вычэрпваліся ўсе творчыя сілы, якія ўзьнімаліся на ніву культурнага будаўніцтва з працоўных гушчаў. І вось „Маладняк" ставіць перад сабою задачу сабраць і аб'яднаць усе культурныя пісьменьніцкія беларускія сілы. Першы год яго існаваньня і праходзіць пад сьцягам гэтага зьбіраньня і аб'яднаньня. Што задача гэта была насьпеўшая і жыцьцёвая, сьведчыць хуткі колькасны ўзрост „Маладняка". Адна за аднэй у першы-ж год засноўваюцца маладнякоўскія філіі ў акруговых гарадох, і ўжо да канца першага году „Маладняк" мае свае філіі ўва ўсіх акруговых гарадох Беларусі плюс да гэтага філію ў Маскве і Гомлі.

Так прашоў год. Сілы сабраны. „Маладняк" з 6 асоб вырас да 500. Апроч таго, пачынаюць закладацца студыі (Менскі пэдтэхнікум, Магілеў) і гурткі (Калінішчына) „Маладняка". Гэта ўсё ставіць перад „Маладняком" новыя задачы. Папершае, трэба гэт... аступлажыць у пэўныя організацыйныя формы, трэба організацыйна аформіць ...няк". Падругое, т... хавацца, вывучыцца і загартавацца дзеля ...чай працы. Нарэшце, трэцяе, трэба-ж і твар... трэба-ж разьвіваць беларускую культуру, прын... ў першую голаў—прыгожае пісьменства.

І вось другі год працы „Маладняка" пр... пад гаслам выкананьня гэтых задач. Ён ...юцца як-бы на два кругабегі. Першы ...працай па організацыйным афарм... ...ю „Маладняка", выпрацоўваецца ...ша пленум „Маладняка ...ае афармленьне і ...ому робіцца ... іх скл...

Чорнага, Язэпа Пушчы, М. Зарэцкага, Крапівы і інш. Выхад у сьвет іх твораў зьяўляецца найлепшай сьведкай якаснага ўзросту „Маладняка“, а таксама сьведкаю ўзросту беларускай культуры.

Вось той шлях, які пройдзены „Маладняком“ за 2 гады свайго існаваньня. Але, кажучы аб гэтым шляху, неабходна яшчэ сказаць пра адзін бок працы „Маладняка“, неразрыўна зьвязаны наогул з усёй творчай і арганізацыйнай яго працай. Гэта—грамадзкая праца. „Маладняк“ добра ведае, што для падняцьця беларускай культуры, для яе разьвіцьця неабходна, каб масы таксама не адставалі, неабходна, каб масы былі культуна пісьменнымі. Вось таму „Маладняк“ і злучае ў сабе з творчаю працаю працу грамадзкую. Гэта задача разьвязвалася выездамі маладнякоўцаў на акругі, уладжваньнем выступленьняў у рабочых і сялянскіх клюбах, арганізацыяй маладнякоўскіх вечароў. Такіх выступленьняў наогул „Маладняком“ зроблена звыш 300 за два гады свайго існаваньня.

Вось праца „Маладняка“. Яна паказвае, што „Маладняк“ адыгрывае вялікую ролю і займае адно з першых месц у разьвіцьці беларускай культуры. Для яе разьвіцьця 2 гады працы „Маладняка“ зрабілі надзвычайна шмат, але яшчэ больш засталося зрабіць. Трэба паглыбляць той шлях, па якім ішоў „Маладняк“ два гады, каб узьняць беларускую культуру на ўзровень іншых народаў. Дзеля гэтага трэба паглыбіць працу ня толькі ў галіне беларускай літаратуры, але і ў галіне беларускіх мастацтваў. Заснаваньне у „Маладняку“ мастацкіх сэкцый паказвае, што й гэтыя галіны беларускай культуры ўжо заяўляюць аб сабе і патрабуюць для сябе належнай увагі і разьвітку.

Будзем спадзявацца, што трэці год „Маладняка“ пройдзе пад гаслам паглыбленьня творчай працы маладнякоўцаў і арганізацыйнага афармленьня іншых (мастацкіх) галін маладой беларускай культуры.

**А. Бабарэка.**

# Дзядзькі поплаў мераюць.

*Апавяданьне.*

Максім Брадэцкі гэнэральскім паглядам акінуў паплавы, што маўчалі ў васеньніх туманах, і нагнуўшыся пачаў закасваць шарачковыя парткі. Калошы былі мокрыя і пруткія, як бляха, і цяжка было іх закасваць; ад гэтай цяжкасьці валасаты твар расплываўся, сьцягваўся й крывіўся набок, а вочы проста глядзелі на Мікалая Ветра, што стаяў напроці й сьпяшаючыся выкалупваў нешта з носу.

— Дык, значыцца, ты заяўляеш, што я на паўтары сажні заняў тваго поплаву, ты заўляеш?— сказаў Максім, падкасаўшы порткі:—аг-га, калі ты заяўляеш!

— Тут ніякага ага няма й быць ня можа,— адказаў Мікалай,—тут табе ўсякі дурань скажа, што на паўтары сажні майго поплаву ў цябе.

— Та-а-ак!.. То, значыць, я, патвойму, злодзей, значыць, патвойму? Гавар-ры!

— !?!!

— Аг-га! Калі я, значыцца, злодзей, то зараз-жа дакажы, што я калі і ў каго ўкраў, зараз-жа дакажы, калі я, значыцца, злодзей! Ты не дакажаш, а я табе магу сьведкі прыставіць, пра тваго, значыць, дзядзьку... І калі ты хочаш ведаць, дык гэта ты ў мяне на тры сажні ў поплаў залез, бычыш куды ты палікі пазабіваў? Калі ты хочаш ведаць!.. Дай закурыць.

Вецер паволі дастае з кішэні капшук, і абодва закурваюць. Закурыўшы, Брадэцкі зноў пачынае:

— Падкасваўся я не дарэмна, не для таго, каб тут гаварыць з табою, хадзем, будзем мерыць.

— Хадзем, будзем мерыць.

Яны ўдвух ідуць па мокрым поплаве; вада пырскае ўгору між пальцаў, а перад імі ўзьлятаюць з кустоў патурбованыя вароны.

— Сытыя, на іх ліха, якія ўвосень,—глыбокадумна выказвае сваю ўпэўненасьць Максім.

— А што,—адказвае весела Мікалай,—цяпер ім харчу па горла, вунь, у Юрася ўсю арабіну за гэтыя дні абклявалі, каб на іх дохлая.

— Ну, а што, хто ў каго перамерыў?!

— Хлопцы, што заводзілі за глінішча коні, цяпер ідуць назад....

Голас у Мікалая пэўны скаргі, але вясёлы ад упэўненасьці, што яго праўда:

— На паўтары сажні, браткі мае!

— На тры сажні якраз майго заняў; летам як касілі, тады я яшчэ сьцярпеў, а гэта трэба палікі перабіць.

— Як-жа вы ведаеце, што на паўтары сажні або на тры?

— Як-то каб ня ведаць?!. Тут кінь вокам, дык, як той казаў, усё, як на далоні!

Дзядзькі ходзяць, ляпаюць нагамі па макраце, а хлопцы садзяцца каля кустоў курыць ды глядзяць.

Пахадзіўшы трохі, дзядзькі йдуць назад, разам закурваюць у хлопцаў і садзяцца супачываць.

Дзьме вецер ды мокры і ня сушыць ён у дзядзькоў парток, толькі камечыць бараду Максіма Брадэцкага ды разносіць па кустох яго хрыплавольны голас:

— Тут, значыць, на адну ляйчыну з гакам перабрана.

— Няхай у таго жывот адбярэ, хто ў каго адабраў,—даводзіць Мікалай, моцна зацягваючыся чорным ад тоўстае паперкі дымам.

— На ляйчыну з гакам, я-ж кажу!

— Ляйчына бывае ўсякая.

— Усякая, усякая!—усхватваецца раптам Максім,—ён ужо ляйчыну ўведаў, што яна ўсякая бывае; ды ў мяне лейцы ўжо другі год адны, як зьвіў тым летам, дык яшчэ на зіму будзе. А ён— уся-я-я-кая! Ён ужо лейцы ўведаў! Усё роўна, як-бы гэта я чужога хачу.

— І я чужога не хачу! Ня трэба мне чужое.

— Ах, якія вы абодва справядлівыя людзі.

Дзядзькі й вухам не вядуць насьмешлівых слоў хлапца, ды зноў паднімаюцца і ўглядаюцца ў поплаў, дзе няроўна тырчаць на зялёнай роўнасьці дачасу пабітыя палікі. На адной сядзіць варона і, падтуліўшы мокры хвост, весела крычыць.

— А, каб на цябе ўпадкі,—кідае Максім на яе некаю ламачынаю,—гра-аа! Разьзявіла горла, каб яно табе запухла. Якое табе ліха адходзіць!..

Варона нехаця адлятае трохі назад, садзіцца на зямлю і зноў весела крычыць.

— Цьфу!—злуе Максім і зноў ідзе „адброджваць“ мяжу поплаву.

Хлопцы паднімаюцца й аглядаюць усю гэтую работу.

— Самае важнае,—гаворыць адзін,—дык гэта ня трэба гарачыцца; от, усё паволі зробіцца, перамераецца, граніца знойдзецца і тады можна будзе йсьці дадому.

Ззаду чуецца рогат, і хлопцы адыходзяць.

Дзядзькі зноў вылазяць на сухое к кустом і глыбокадумна маўчаць. Падыходзіць Кірыла Грак, што насіў у Шастакі тры рублі задатку на стары сьвіронак, які мельнік Зьмітрок Чаркас



маецца прадаваць па калядах. Грак бярэцца ўбокі і, даведаўшыся ў чым справа, пачынае даводзіць, што якраз такі выпадак быў „яшчэ за старым нажымам“ у Панамара Калістрата з дзяком. Два дні мы мерылі, а на трэці скасілі разам ды пасьля падзялілі сенам.

— Толькі я вам так рабіць ня раю,—дадае на канцы Кірыла,—найлепш цяпер-жа вырашыць справу на месцы. А то пасьля пачнецца цеганіна, бо пачне заходзіць даўнасьць, а гэта на сьвежую руку вы падганеце справу да канца й дзела кончана, калі вы хочаце ведаць.

Кірыла весела садзіцца пад куст, па звычаю закурвае і дае закурваць Максіму з Мікалаем. Курачы садзяцца й яны, і гаворка перакідаецца на табаку, пасьля з табакі на каноплі, што вераб'і ў Кірылы паклявалі, з канапель на грэчку, якую дзякавы сьвіньні былі стравілі Мікалаю Аднавокаму. А пасьля пачалі гаварыць аб драбінах, аб здохлым Карасёвым кані, аб Шастакоўскім мельніку, у якога дачка ўцякла з комуністым у горад...

Пераваліла поўдзень. Пачало выясьнівацца, гусьцей дзьмуў вецер і весялей закрычалі вароны.

— От, жабы ўжо ніводнае нідзе ня відно,—сказаў Кірыла.

— Позна ўжо, каторая пара,—адказаў Мікалай, падбіраючы пад сябе ногі.

— Восень,—глыбокадумна падаў голас Максім Брадэцкі.

* * *

— Дзядзечка, ці ня бачылі тут чорнае каровы?— пачуўся раптам звонкі і порсткі галасок.

Перад дзядзькамі стаялі два хлапчукі.

— А дзе вы яе згубілі?—падаў голас Кірыла.

— Гэта яна, дзядзечка, бегае, дык мы яе да дзяка гналі, а яна ўцякла.

— Да дзяка?!.

— Але, да дзяка, бо ў дзяка бык заводзкі.

— Ага, а то я гляджу, што за ліха.

— Не, тут ня было яе. Можа, хіба, кустамі да рэчкі пабегла, але-ж чутно было-б, тут блізка, — сказаў Максім.

Хлапчукі пабеглі, і дзядзькі падняліся. Кірыла пашоў паволі цераз кусты, а Максім упэўнена сказаў:

— Няхай той есьці ня хоча, хто хоча чужога. Мяне сын угаварваў раніцою: ня йдзі ты, кажа, бацька, нашто час траціць, некалі вясною будзе відно. Але я праўду люблю.

— Твой сын у канцамолах, добра яму й гаварыць.

— То чаго ты злуеш? Няхай твой сын будзе хоць у комуністых.

— Няма ў мяне сыноў.

— Ну, то што я вінават?

— Які цябе чорт вінаваціць!..

За кустамі відна была вёска. Плылі над паплавамі хмары і зноў цямней стала. Канчаўся дзень.

Дзядзькі павысморквалі насы і палезьлі мерыць поплаў.

І весела абвяваў іх слаўны васеньні вецярок.

**Сусед Вясёлы.**



# Дзьве гадавіны.

Сем год таму назад зарадзіўся слаўны Ленінскі Комсамол. Бальшавіцкія організацыі моладзі зарадзіліся амаль-што толькі ў 1917 г. ў буйных пролетарскіх цэнтрах Расіі: Ленінград, Масква і некаторыя іншыя. Па пачыну Ленінградзкай і Маскоўскай організацыі і быў скліканы I-шы зьезд Расійскага Комсамолу, той зьезд, калі рабоча-сялянскія саюзы моладзі назвалі сябе Комуністычным Саюзам. З гэтага часу пачынаецца слаўная гісторыя бальшавіцкага Комсамолу.

Ленінскі Комсамол Беларусі—неразрыўная частка ўсяго РЛКСМ. Ён нарадзіўся іменна пасьля першага зьезду РЛКСМ, пасьля таго, як Кастрычнік прышоў на Беларусь.

Нашая організацыя бярэ свой пачатак не ад меншавіцкіх організацый моладзі, якія былі на Беларусі, ні ад „Югенд-бунд“, ні „Клейн-бунд“, ні ад яго папярэднікаў.

Бальшавізм у юнацкім руху на Беларусі к нам прышоў з усходу, прышоў з рэволюцыйнай хваляй Кастрычніка, агонь, які зарадзіўся ў магутных пролетарскіх асяродках СССР.

Комуністычны рух моладзі ўсяго Саюзу Савецкіх краін народжаны рэволюцыяй і выхаваны ў Ленінскім напрамку.

Сёньння мы перавалілі на восьмы год існаваньня. Не гракочуць гарматы, няма барацьбы на фронтах, мы ўваходзім у восьмы год мірнай працы над будаваньнем соцыялізму ў адсталай краіне.

Праца цяжкая і лёгка можна зьбіцца з правільнага шляху, лёгка можна не знайсьці прыстасаваньня свайму рэволюцыйнаму маладому запалу, можна паддацца іншым небясьпекам. Але сем год ззаду, сем год барацьбы, працы, вучобы.

Сем год разам з бальшавіцкай партыяй, пад яе кіраўніцтвам. На восьмы год таксама з ёю, на яе шляху, мінуючы ўсе небясьпекі, яшчэ больш сябе загартоўваючы.

Сёньня мы таксама сьвяткуем *восьмую гадавіну Кастрычнікавай рэволюцыі.*

Працоўныя ня толькі СССР, але і ўсяго сьвету будуць падлічваць яе працу.

Мы, „дзеці рэволюцыі — кастрычніка сыны“, гардзімся яе дасягненьнямі, бо на працягу сваіх сямі год мы яе лёзунгі ператваралі ў жыцьцё

У дзень слаўнае сёмае гадавіны РЛКСМ наша шчырае прывітаньне *Комуністычнай партыі—нашаму кіраўніку.*

Наша шчырае прывітаньне ЦК РЛКСМ—пра ва дыру бальшавіцкага Комсамолу, правадыру міліённых мас рабоча-сялянскай моладзі.

**А. Самахвалаў.**

---

# Вясковы комсамолец і культура.

„Пролетарская культура павінна зьяўляцца па-ступовым разьвіцьцём тых запасаў вед, якія чалавецтва стварыла пад уціскам капіталістычнага ладу“... так казаў У. І. Ленін у сваёй прамове „Заданьні комсамолу“.

Разьвіваючы гэтую думку правадыра, прыстасоўваючы яе да ўмоў беларускай вёскі, мы бачым:

Вясковая комсамольская ячэйка—гэта культурная моц нашай вёскі. І кожны комсамолец, які жыве ў часы мірнага будаўніцтва краіны, калі справа абароны краіны аддадзена частцы рабочых і сялян—Чырвонай арміі,—і калі яму ў руках ня прыхозіцца вінтоўку трымаць, павінен стаць барацьбітом на фронце асьветы і культуры. Праўда, вясковы комсамолец яшчэ ня зусім можа лічыцца за запраўднага змаганьніка за культуру і асьвету, бо ён яшчэ занадта малады і ня зусім да гэтага падрыхтаваны. Аднак, як шчыры ўдзельнік у барацьбе за разьвіцьцё культуры і асьветы, стоячы побач з старэйшым братам-комуністым і вясковым настаўнікам, ён стаць зможа і павінен.

Спадчына, пакінутая нам царскай уладай, яшчэ й дагэтуль адчуваецца ў жыцьці вёскі. Стары першабытны ўклад жыцьця бацькоў комсамольца, іх амаль-што пагалоўная няпісьменнасьць, вось усё тое, што родзіць у вёсцы цемру з яе забабонамі, часам проста дзікімі звычаямі ў грамадзкім жыцьці.

Наш вясковы комсамолец, беларус па нацыянальнасьці, павінен быць шчыра зацікаўлен росквітам тае „мужычае", як называлі паны ды чыноўнікі раней, культуры, тае культуры, да якой ён па сваім паходжаньні належыць, на мове якой гаворыць, а мова—гэта першая ступеня ў культуры народаў.

Пабач з фактам існаваньня самастойнай Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі існуе ўжо і самастойная беларуская рабоча-сялянская культура. Рабоча-сялянская таму, што ня створана яна панамі ды царскімі чыноўнікамі, а заложана самімі рабочымі і сялянамі Беларусі.

У гэтым годзе працоўная Беларусь сьвяткуе юбілей свае культуры—чатырохсотгодзьдзе друку на Беларусі. Гэта гаворыць за тое, што і чатырыста год таму назад існавала на Беларусі культура, выдаваліся ў беларускай мове кніжкі, але польскімі панамі ды царскімі вураднікамі была прыдушана, якія не давалі ёй правоў на існаваньне, і толькі з таго часу, калі ўлада была ўзята самімі беларускімі рабочымі ды сялянамі, адноўлена, пастаўлена на шлях росквіту і разьвіцьця. І комсамолец гэтую культуру павінен побач з асьветай паглыбляць, павінен стаць удзельнікам у яе росьце, у яе росквіце.

У чым-жа павінна выяўляцца праца комсамольцаў? Першае і самае галоўна, гэта тое, што *трэба пазнаць свой край, пазнаць здабытыя ўжо культурныя дасягненьні краіны* і потым, пазнаўшы іх, выступіць з ведамі перад масаю ўсяе сялянскае моладзі, усяго сялянства. Беларуская кніжка і газэта павінна ня зыходзіць у свабодную ад працы часіну з рук комсамольца-селяніна. Але кніжка гэта ня ўсё. Комсамолец павінен станавіцца культурным чалавекам ня выключна па кніжках. Жыцьцё, абкружаючая яго прырода павінны стаць у руках яго аружжам змаганьня для падняцьця яго культурнага ўзроўню з мэтай разьвіцьця культуры.

Організацыя гуртка па вывучэньню края, краязнаўчага гуртка пад кіраўніцтвам мясцовага настаўніка, да працы ў якім неабходна ўцягнуць усю вясковую маладзь—вось тое аружжа змаганьня побач з кніжкай, якое ня толькі навучыць комсамольца, а і ўцягне яго ў цікавую творчую працу. Гэтым сялянскі хлапчына сам будзе прымаць удзел у разьвіцьці беларускае рабоча-сялянскае культуры, дапамагаючы сваёй працай навуковым культурна-грамадзкім установам Беларусі.

Другое, ня менш важнае жыцьцёвае заданьне перад комсамольцам-культурнікам — гэта *барацьба са старым укладам жыцьця вёскі, з яе забабонамі, звычаямі*. Упарта, крок за крокам, ён павінен адваёўваць сабе позыцыі на гэтым фронце. У чым-жа павінна выяўляцца праца? Тут патрабуецца вялікая асьцярожнасьць падыходу да абкружаючых яго. Раней за ўсё ён сам павінен парваць якую-б то ні было сувязь са старымі звычаямі. Ён сам павінен адчуваць сябе новым чалавекам, перад якім нічога таемнага ў прыродзе няма; ёсьць навука, чым усё ён і павінен тлумачыць. Ён павінен ісьці побач з навукаю. Але, вядома, бяз першага: пазнаньня свайго краю, пазнаньня культуры, ён гэтага здолець ня зможа. Значыць—*комсамолец сам не павінен адставаць ад навукі, культуры, ён павінен вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца, як сказаў вялікі правадыр Ул. Ленін.* Ведаючы грамату, комсамолец павінен абавязкова стаць дапісчыкам у газэту, у сваіх-жа лістох высьвятляць ня толькі жыцьцё ячэйкі, як гэта ў нас часта робіцца, а даваць прыклады жыцьця вёскі ў цемры, змагацца з вясковымі злачынцамі, змагацца за новыя формы землякарыстаньня, высьвятляць добрыя старыя бакі жыцьця вёскі, памятаючы, што для пабудовы новага пабыту нам патрэбна вывучыць добра старое, выбраць з яго самае лепшае, бо толькі тады мы зможам будаваць новы пабыт.

І трэцяе заданьне, якое стаіць перад комсамольцам-селянінам, праўда, ужо маючым талент—*гэта тварыць новую рабоча-сялянскую літаратуру.* Комсамолец, вясковы хлапец, маючы некаторую здольнасьць да пісаньня—ніколі не павінен пакідаць сваіх першых спроб, бо ў масах гіне дарма шмат талентаў. Прыкладам гэтаму служыць два годы таму назад утворанае, юбілей якога мы сьвяткуем, Усебеларускае Літаратурнае Аб'яднаньне „Маладняк", створанае здольнымі комсамольцамі і беспартыйнымі хлапцамі, рабочымі маладымі, сялянамі ды дзецьмі іхнімі.

Комсамолец павінен гэта памятаць, ведаючы, што пра літаратуру для беларускіх рабочых і сялян павінны дбаць самі-ж яны, але маючыя здольнасьць і нахіл да гэтае працы.

Вось прыблізна тое, у чым павінны прымаць удзел комсамольцы, жадаючыя стаць культурнікамі, жадаючыя якнайхутчэй убачыць новую вёску, жадаючыя ўбачыць беларускую культуру ў яе поўным росквіце на шляху да пачэснага месца як Беларусі, так і яе культуры сярод культур іншых народаў усяго сьвету.

**Іл. Барашка.**

# Па ячэйках Ленінскага комсамолу.

## Як вядзе працу наша група чытаньня.

*Гурток 2-га ўзроўню ячэйкі ЛКСМБ саўгандлёвых служачых. Калінінск.*

Дзеля замацненьня дасягненьняў зімовай працы гуртоў наша ячэйка зьвярнула асаблівую ўвагу на працу груп чытаньня, дзеля чаго была праведзена разьбіўка сяброў гурткоў на групы, вынікам чаго і зьявілася наша група чытаньня ў ліку 7 чалавек. Пры разьбіўцы на групы падлічвалася добраахвотнасьць кожнага з сяброў ячэйкі і яго політычны ўзровень. Пасьля выдзяленьня кіраўніка мы прыступілі к распрацаваньню тэм. У намечаных намі 15 тэмах мы ставім сабе мэтай, каб добра пазнаёміцца з пытаньнямі: вынікі XIV Парт. Конфэрэнцыі, з нац. пытаньнем, з пастановамі апошняга пленуму ЦК. КПБ (б) па нац. пытаньню, з гісторыяй Комуністычнай партыі на Беларусі, з гісторыяй Беларусі і юнацкім рухам па кніжцы Астроўскага. Адначасова з гэтымі пытаньнямі мы ставім сабе мэтай, каб праз газэты і інш. знаёміцца з агульным нашым становішчам. Група займаецца адзін раз у тыдзень. У аснову працы паложана самадзейнасьць кожнага з сяброў групы. Вядзецца падлік працы і вучот пасяшчаемасьці. Заняткі праводзяцца акуратна, і ўсе сябры групы зьяўляюцца акуратна.

П. Ціханаў.

## Комсамольцы за вучобай.

*Хатаўнянская яч., Журавіцкі р., Магілеўшчына.*

Зімою, яшчэ спачатку 1925 г., наша комсамольская ячэйка організавала агульна-політпрасьветны гурток, дзе вучыліся малапісьменныя комсамольцы і беспартыйная моладзь.

Заняткі ў гэтым гуртку праводзіў вясковы настаўнік.

З месяц таму назад быў выпуск вучняў гэтага гуртка.

Вінікі ад яго заняткаў досыць добрыя: усе атрымалі шмат ведаў і зараз цікавяцца газэтамі і кніжкамі, чаго раней ня было.

Куляшоў.

## Як мы працуем.

*Кліноцкая сельск. яч. ЛКСМБ, Чэрвенскага раёну.*

Субота. Чуць толькі стала цямнець—ужо комсамольскі клюб повен вясковай моладзі: хлапцоў і дзяўчат. З сьцен клюбу праз дзьверы і вокны вырываецца на волю і разьліваецца навокал сьпеў рэволюцыйных песень. Чаго-ж гэта моладзь сёньня сабралася сюды, а ня дзе-небудзь на вёсцы пад рып гармоніка выбівае дрыны? А гэта сёньня Кліноцкая яч. ЛКСМБ будуе вечар сувязі з ёю—вось яны ўсе і сабраліся. Тут не распазнаеш, дзе комсамолец, дзе беспартыйны: усе яны зьліліся ў адно нешта суцэльнае, неразрыўнае, адну моцную сям'ю. Калі ўжо ўсе сабраліся і ўсьцішыліся—адзін з сяброў яч., коопэрацыйны працаўнік, зрабіў даклад аб коопэрацыі, у якім ён яскрава абмаляваў сутнасьць і значэньне яе для селяніна, яе становішча і дасягненьні. Моладзь надта зацікавілася гэтым дакладам і з вялікаю ўвагаю слухала яго. Пасьля дакладу была пастаўлена п'еса на гэту тэму. Моладзь, здаволеная вечарам, сумесна з комсамольцамі зноў з песьнямі пашла па хатах.

Вас. Гарамыка.

## Больш увагі піонэр-атраду!

*Грабёнка, Чэрвенскага раёну.*

Грабёнскі піонэр-атрад організованы ў пачатку гэтага лета і налічвае ў сабе толькі 11 асоб.

Працу разгарнуў невялікую, але ўсё тое, што даручае комсамольская яч., выконвае добра. Так, напр., было выдзелена некалькі асоб дапамагаць у працы палявых яcьляй, і яны з вялікаю ахвотаю яе выканалі. Вялікае імкненьне ў іх паказаць сваю працу, сваю дзейнасьць усім дзецям, і яны стараюцца выкладаць гэту працу на вечарох.

Цяга сялянскіх дзяцей у піонэр-атрад вялікая, з зайздрасьцю глядзяць яны на піонэраў у час сходаў, сьпеваў.

Комсамольскай яч. трэба пайсьці насустрэч піонэр-атраду і дапамагаць яму ў чым толькі можна, а галоўнае—піонэры, як вясковыя дзеці, мала разьвітыя й дрэнна разумеюць сваю ролю і значэньне, і каб даць ім нейкае разьвіцьцё, трэба ячэйцы праводзіць гутаркі і іншыя заняткі, бо важак адзін ня зможа гэтага зрабіць. Пры добрым кіраўніцтве комсамольскай яч. піонэр-атрад дасьць добрыя вынікі і [illegible] сялянскіх дзяцей завярбуе ў свае шэрагі.

Д. Ш.



Беларускія тыпы. Лірнік-жабрак з павадыром.

## Трэба падцягнуцца.

*М. Пагост, Слуцкае акругі.*

У нашай ячэйцы процант комсамольцаў, якія выпісваюць газэты, вельмі й вельмі малы. З 20-ці чалавек комсамольцаў выпісалі „Чырвоную Зьмену" на кастрычнік толькі два.

**Сам сакратар ня выпісвае „Чырвонай Зьмены".** Часопісь „Мал. Араты" зусім незнаёма нашай ячэйцы, ня гледзячы на тое, што большая частка ячэйкі—сялянская моладзь.

**Брыдка ячэйцы, маючай ад нараджэньня 4-ы гады, не пайсьці сродкаў на „Маладыя Араты" і „Чыр. Зьмену".**

Кол.




# Сымон Кудзеля.

*П'еса ў 2-х дзеях.*

АСОБЫ:

Рыгор Кудзеля—селянін гадоў 50, жанаты на другой жонцы.

Ганна—яго жонка, маладая кабета.

Сымон—сын Рыгора Кудзелі (ад першай жонкі), хлапец гадоў 20.

Васіль—хлапец-комсамолец, Сымонаў тавáрыш.

Галька—дзяўчына гадоў 19.

2 жандары—першы і другі.

ДЗЕЯ ПЕРШАЯ.

Дзея адбываецца на дварэ Сымона Кудзелі; з правага боку відаць вугал яго хаты.

Зьява 1.

Галька выходзіць з збанам і сьпявае.

Галька: *(пяе)* Ой, у полі вецер сьвішча—
Усё дрэва гнецца,
Ой, як баліць маё сэрца,
Аж на часткі рвецца!

(Праз некалькі хвілінак маўчаньня).

Ах, нядобры Сымон, казаў, што прыдзе пад млын; я чакала, чакала, а ён так і ня прышоў.

*(пяе)*

Ой, спаліце пяруны
Майго Сымонку, бо дурны;
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не!

Я казала, ды й ня раз:
Прысылай сватоў да нас.
Татка добры, ён аддасьць
І ў пасаг цялушку дасьць.

А той Сымон, мой благі,
Усё сьмяецца: „Гі-гі-гі!“
Ды й таго часамі кпіць:
„Ну, чаго табе карціць?“

Ой, пралійцеся дажджы,
А Сымоначка—пажджы.
Учыню табе бяду—
За нікога не пайду!

(Задуменна гаворыць). А мо' ён ужо другую пакахаў? Мо' мяне ня любіць больш?.. І чаму ён учора ня прышоў?! Ну й дам-жа я яму!.. (З сьмехам, тупнуўшы нагою).

Зьява 2.

Уваходзіць Сымон і прыслухоўваецца да апошніх слоў Гальки.

Сымон. А як я не вазьму!?

Галька. Ай! Як ты мяне папалохаў! (б'е яго ў плечы). Ах ты, паганец, ты чаму ўчора ня прышоў, як абяцаўся!? Гэта-ж я столькі чакала цябе. А мо' ты ўжо мяне ня... любіш? Мо' ты хадзіў да другой?.. (Сымон стаіць, апусьціўшы галаву). Сымонка, праўду я кажу ці не?.. га?.. Чаму ты маўчыш?.. Чаго так спахмурнеў?..

Сымон (уздыхнуў). Эх! Галя, Галя! І ты яшчэ пытаеш?! Пасьля ўсяго таго, што я ўчора бачыў, мне зусім ня трэ' было з табою нават і спатыкацца!.. І навошта ты мяне мучыш, Галя?..

Галька. Што ты, Сымонка?! Што ты выдумаў? Скажы мне!..

Сымон (*пяе*). Галя сэрца, Галя рыбка,
Што са мною робіш?
Кажаш, што мяне кахаеш,
А з другімі ходзіш.

Ці-ж я такі няўдалы,
Ці не ў цябе ўдаўся?
Ці ня люблю цябе шчыра,
Ці з цябе сьмяяўся?

Любі-ж сабе, маё сэрца,
Любі, каго знаеш,
Але ты з мяне ня сьмейся,
Як калі згадаеш!

А я пайду на край сьвету,
І ў чужой старонцы
Знайду сабе, альбо згіну,
Як той ліст на сонцы!

Галька. Сымонка! Што ты выдумаў? Схамяніся? Не гняві ты бога! Табе нехта нагаварыў нечага, а ты й паверыў!..

Сымон. Хто мне будзе гаварыць? Досыць і таго, што я сам бачыў!

Галька (як-бы здагадаўшыся). А-а-а-а!.. Ну, дык нічога-ж, мой ты дурненькі Сымонка, ты ня бачыў! Я ўжо ведаю, куды ты кіруеш, але ці кіруй, ці ня кіруй, дык усё роўна ня выедзеш, зачэпішся. Ты ўжо ўзлаваўся на мяне за тое, што бачыў, як я ішла з Васілём! Праўда?.. га?.. (Сымон маўчыць). Ну, чаго-ж маўчыш? Кажы, праўду я кажу ці не?..

Сымон. Праўду, то праўду, але...

Галька. Ну, дык ты-ж сам вінават, а на мяне дзьмешся няма ведама за што. Трэба было прысьці ўчора, як абяцаўся, а то я чакала, чакала, а ты там недзе з другою круціўся, а пра мяне й забыўся. А што ты ўчора бачыў мяне з Васілём, дык гэта ня дзіва, бо ён быў у млыне і ў той час, як я, не дачакаўшы цябе, вярталася ў вёску, вышаў з млыну і пашлі разам.

Сымон (павесялеў). І гэта праўда?.. Ну, то на міравую, дай пацалуемся, мая ягадка! (Хватае і цалуе Гальку).

Галька (б'е яго, ён абараняецца). Ах ты, паганец! Прасі зараз-жа прабачэньня!

Сымон. Ну, ужо выбачай, больш ня буду!

Галька (дражніць). „Ня буду, ня буду!“ Толькі так кажаш! Ну, добра, а чаму ты ўчора ня прышоў?

Сымон. Маці ня пускала. Усё выпраўляла на засьценак да Марылі ўдавы, чуць вырваўся быў. (Жартуючы). А прышоўшы пад млын, убачыў, як ты там абнімалася з Васілём, дык куды-ж тут мне ўжо было...

Галька. Што-о-о?.. (Б'е яго). А ты дык бяз выдумак не пражывеш ні аднэй хвіліны... Але досыць ужо гэтых жартаў. Кажы, як твае бацькі: усё яшчэ не згаджаюцца?

Сымон. Ды куды там!.. Ні ў той бок кіруецца! *(Пяе).*

На вуліцы нявесела,
Ў хаце бацька лае,
А да цябе, мая міла,
Маці ня пушчае.
Да Марылі засьцянковай
Яна мяне гоне.
Бо Марыля, людзі кажуць,
Мае грошай многа.
Але гэтага ня будзе,
Бацькоў не ўбаюся!
Як з Марыляю жаніцца,—
Лепш пайду ўтаплюся!

Галька *(пяе).* Ах ты любы, мой Сымоне,
Дык што-ж нам рабіці?

Сымон. Ажаніцца як хутчэй
І там разам жыці!

Галька (заўважыла, што падыходзіць Ганна і вырвалася ад Сымона). Сымонка, твая маці йдзе. Уцякайма, а то будзе бяда! Будзь здароў, братка! (Выходзіць).

Сымон (у сьлед ёй). Галя, вечарам будзь каля млыну!..

Галька (за сцэнаю). Добра!

### Зьява 3.

Уваходзіць Ганна.

Ганна. З кім гэта ты тут, трасца тваёй мацеры, шуры-муры разводзіў?

Сымон. Нічога я тут не разводзіў. Як мама яшчэ маладая, дык мо' табе розныя там шуры-муры ў галаве. (Ідзе ў сенцы).

Ганна. Што?.. Ах ты, валацуга. (Шукае, каб чым выцяць). Вось дзіцятка дзе ўдалося, каб цябе ногі не насілі. Каб ты апундырыўся, гад ты!..

Сымон (выходзіць з вядром). Чаго гэта, мамка, лемантуеш на ўсю вёску?..

Ганна (нашла кол). Вось я цябе зараз.. (Гоніцца. Сымон уцёк сьмяючыся). Ах ты, абармот ты, каб цябе... і ўсё такое!.. (Грозіць у сьлед). Я табе пакажу!.. Гэта-ж падумаць: гэтакае, шануючы бога і вас (да публікі), шчанё, што яшчэ й малако на губах не абсохла, будзе з мяне кпіны строіць, мае вы кветачкі!?. І што мне з ім рабіць?.. Гэта-ж уцялёпаўся, мае вы ягадкі, у гэту плюгавую Гальку Макарову, дык хоць ты яму кол на галаве чашы. І што ён добрага ў ёй бачыць? „Жаніцца, кажа, хачу!“ А што-ж мне за прыбытак будзе з тваёй жаніцьбы? Нявестка бо пасаг вялікі мае: адну здохлую цялушку!.. (З пагардаю). Эх! галота, галота!.. (Рашуча). Не! Досыць ужо мне з ім валэндацца! Трэба якнайхутчэй засватаць да Марылі ў засьценак. Хоць яна і ўдава і дзетак двое ёсьць, але гэта, мае вы ягадкі, глупства. Затое гаспадарка добрая. Аднэй зямелькі паўтары валокі, а жывёла, ды будынкі ўсе новенькія!. (Змоўкла). А яшчэ вунь Пантурчыха казала, што золата многа ёсьць, гэта-ж ня жартачкі! Зараз-жа пайду да панамара і папрашу за свата. Яно так лепей будзе, ды й вясельле зараз зробім. (Пашла ў хату).

### Зьява 4.

З хаты чуваць яе голас: „Чаго ты ляжыш, -каб ты каменем ужо лёг! Уставай зараз-жа!...“ Рыгор нешта бурчыць. „Што?.. ты агрызацца будзеш?.. Дзе гэта мая мешалка? Вось я табе зараз пакажу...“

### Зьява 5.

Рыгор выскачыў заспаны, хістаецца. Ганна паказваецца ў дзьверах з мешалкаю ў руках.

Ганна. Ідзі вунь у млын ды паглядзі, ці таўкуцца крупы, а то разваліўся тут, п'янюга ты, рэзьгіны гнілыя!.. (Пашла).

### Зьява 6.

Рыгор (пазяхае). Эх-хэ-хэ! (Чухае патыліцу). І чаго яна прычапілася да мяне? Каб я хаця зрабіў ёй што кепскае, ці сказаў, а то лёг крыху на печы плечы пагрэць, а яна навалілася няма ведама за што. (Чухаецца). Але-ж і галава мая баліць, як не рассыплецца. Праўду сказаць, учора з сватам крыху сербанулі, але не мяшала-б і сёньня апахмяліцца. (Мацае па кішэнях). І ніводнай капеечкі не засталося!.. А-а а!.. кепска, кепска... вельмі-ж галава баліць.

А тут яшчэ жонканазаляе... Цьфу! Бадай на цябе паветра, што-ж тут рабіць?.. (Стукнуўшы сабе пальцам у лоб). Стой, брат!.. А можа гэта жонка абчысьціла мае кішэні, як я спаў?!. Вот каб на яе ліха!.. І які мяне чорт падбухторыў другі раз жаніцца?.. (Дастае тытун, люльку. Пяе).

Які чорт мне падшахнуў
З другою жаніцца,
А цяпер, каб ты прапала,
Я зусім—дурніца.
З ёю волі—чорта два!
Не дае гарэлкі,

А тут гудзе галава
І ў носе сапілкі.
Як адзін сабе я быў—
Ня знаў таго ліха,
Абы часіну ўлучыў—
Зараз да Паўліхі!
Ды й шынкарка-ж тут была,
Жыла за гарою,
Ўся, як макаўка, цьвіла,
Таўсьцюшка сабою!
Грошы ёсьць—за грошы льле,
Часамі дасьць бяз грошай,
І ня скажа ні славечка,
Бо мужык харошы.
За сябе-ж як Ганну ўзяў—
Тут усё прапала,
А пасьля ўжо я спазнаў—
Ганна набрахала!

(Кажа). Ідаўгі-ж у яе язык, каб на яе звод. Як распусьціць, дык, не раўнуючы, як малатарня. *(Пяе)*

Апляла мяне нядоля
З нягоднаю бабай:
Ледзьве цягне ногі з поля,
А біцца-ж ня слаба.

Пачула, бачыце, сілу за бальшавікамі. (Закурвае). А ўсё-ж такі кепска не апахмеліўшыся. Яшчэ, як на злосьць, і грошай няма!.. Ну, але пайду я да Тодара, у яго павінна быць саматужка, можа дасьць і бяз грошай.

(Пашоў пяючы):

Ой, хто ў лесе, азавіся!
Ой, хто ў цёмным, азавіся!..

Зьява 7.

Ганна, азіраючыся, высоўвае галаву і, нікога ня ўбачыўшы, выходзіць.

Ганна. Пашоў такі нарэшце, каб цябе ногі не насілі, п'янюга ты! Яму ўжо й ночы не хапае, ня можа выспацца ніяк. Летам, у гэткую гарачыню, палез ня печ, мае вы ягадкі... Ах-ах-ах! Ну й стварыў бог чапялу недарэчную. Усадзіў душу, ні раўнуючы, як у пень. (Паглядзела ў неба). А мае-ж вы кветачкі, гэта-ж яшчэ трэба да панамара схадзіць, а я як загаварылася, дык і ня бачу, што ўжо сонца нізка. (Пашла ў хату).

Зьява 8.

Уваходзяць Сымон і Васіль-комсамолец.

Сымон. Дык ужо, кажаш, блізка?..

Васіль. Але, блізка!.. Учора ў нас было пасяджэньне ячэйкі, на якім вынесьлі пастанову: усе ў дабравольцы!..

А цяпер бывай здароў, сьпяшаюся... на сход трэба... (Хоча адыходзіць).

Сымон (затрымаў яго за руку). Пачакай!.. А як гэта .. каб мне з вамі... ды вось вінтоўку!..

Васіль (з гарачнасьцю цісьне Сымону руку). Сымон!.. Я ведаў, што ты будзеш з намі!.. Ідзі цяпер на сход, там прыехаў камісар!.. Вінтоўку дадуць! (Пашоў).

Зьява 9.

Сымон адзін Стаіць задумаўшыся.

Сымон. А як-жа Галя? Як я пакіну яе... маю любую, дарагую...

Зьява 10.

убягае Галька.

Галька. Сымон! Сымонка! Ці чуў, братка?., На сход загадваюць... камісар прыехаў... кажуць. палякі зноў сюды йдуць і ўжо блізка!

Сымон. Чуў, Галя! (Стаіць апусьціўшы галаву).

Галька (бядуючы). Ах, вот дзе бяда!.. За Савецкаю ўладаю ўжо палепшала крыху. Панскую зямлю і сенажаць падзялілі, а цяпер усё адбяруць!..

Сымон (рашуча). Ведаеш, Галя?! Я рашыў ісьці ў дабравольцы!..

Галька (кідаецца к яму на шыю з плачам). Сымонка!.. А як-жа... як-жа наша каханьне?...

Сымон. Галя! Мы...

Галька (ня слухаючы яго, праз сьлёзы). Ня йдзі, Сымонка!.. застанься!.. Перачакай, перахавайся ўвесь гэты час, пакуль яны тут будуць!.. Хай комсамольцы йдуць... а нашто табе... вунь амаль усе хлопцы дома застаюцца... Ня йдзі, Сымонка!..

Сымон (рашуча). Не, Галя! Гэтага ня будзе! І калі я яшчэ не комсамолец, то хутка ім буду... А хлопцы нашы—усе здраднікі, злачынцы... Каб яны не дэзэртыравалі, дык мы сюды ня пусьцілі-б гэтых зладзеяў... але што я кажу?.. пан страшней злодзея... А застацца тут я не магу... (Галька перастае плакаць і ўважна слухае). Тут будуць зьдзекі, голад і сьмерць!..

Галька. Ну, добра, Сымонка!.. Гэтак трэба... ідзі, бі іх—панскіх гадаў ды дамоў хутчэй варочайся, бо я буду чакаць цябе! (Плача).

Сымон. Добра, мілая!.. (Супакойвае). Галя, ня плач... я хутка вярнуся і мы тады ўжо ніколі не расстанемся... а цяпер бывай здарова... Не забывайся, што я кожную хвіліну ў думках буду імкнуцца да цябе!.. (Абымае, цалуе й хутка адыходзіць).

Зьява 11.

Галька адна. Плача.

Галька. Усё з ім адыходзіць: надзея, радасьць, шчасьце... Наперадзе—пан польскі... зьдзекі...

ЗАСЛОНА.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ.

Усё робіцца ў хаце Рыгора.

Зьява 1.

Ганна адна, сядзіць ля стала, плача.

Ганна. Вот засалілі... во жыцьцё стала паганае... Ах-ах-ах!.. Усё зруйнавалі, усё парабавалі...

Зьява 2.

Уваходзіць Галька.

Галька. Добры дзень, цётцы!.. Чаго гэта, цётка, плачаце?

Ганна. Ой, Галечка... каб ты ведала, мая ты даражэнькая, як стала жыць цяжка... Немагчыма перанесьці... усё парабавалі... усё зруйнавалі... Гэта-ж падумаць!.. Адну курачку пасьпела схаваць і тую сягоньня знашлі і забілі, каб іх пярун пабіў, каб іх... (плача).

Галька. Дык і ў нас-жа гэтак сама... Цётачка, гэта-ж я прышла да вас сіта пазычыць, трэба крыху мукі прасеяць.

Ганна. Можна даць... (устае, ідзе ў бакоўку і зараз-жа варочаецца з сітам, якое дае Гальцы). Крыху зарэдкае, але можа й добра будзе?..

Галька. Добра будзе, цётачка, добра...

Ганна. Ці праўда-ж гэта, Галечка, казалі, што ўчора жандары твайго бацьку пабілі?...

Галька. Праўда, цётачка... зьбілі ўсяго... сягоньня дык і не ўстае, ляжыць...

Ганна. Ах, каб іх пярун пабіў!.. За што-ж яны?..

Галька. За тое, што шапкі ня зьняў перад імі... Праходзілі ля нашага двара, а тата вароты папраўляў, дык нават і ня бачыў іх, а яны падышлі і давай біць... Але-ж яны ўчора дык многа каго білі... Хлапцоў амаль ня ўсіх паарыштоўвалі...

Ганна. Ах-ах-ах!..

### Зьява 3.

Уваходзіць Рыгор з пугаю. Пад вокам у яго сіняк.

Рыгор. Есьці давай, а то ня еў... галодзен, як сабака... (Са злосьці кідае шапку й пугу).

Ганна (Ідзе к печы, дастае яду). Далёка ты іх вазіў?

Рыгор (садзіцца за стол). А каб яны бокам езьдзілі, каб яны... гадаўё!.. Вунь, аж у Бярозаўку вазіў, за 9 вёрст, на вечарынку да ксяндза, каб яны недаждалі, рассукіны сыны... (Рэжа хлеб, Ганна паставіла яду). Але не-е-е!.. Гэтак ня будзе!.. (Есьць).

Ганна. Дзе-ж гэта відана, за блізкі сьвет на вечарынку вазіць! (Да Гальк і). Гэта-ж яшчэ ад учарашняга, як паехаў, дык вось толькі цяпер вярнуўся... Хаця каб зьесьці далі чаго...

Рыгор. От... сказала, як зьвязала... сабакі гэтыя ўсё адбіраюць, а яна хоча, каб ёй далі!.. Тыя вунь не глядзяць, нават апошняе забіраюць...

Ганна (ў сьлёзы). Дык і ў мяне-ж вунь сягоньня апошнюю курачку забілі, каб іх пярун пабіў...

Галька (праз нейкі час углядалася ў вакно). Каго гэта жандары вядуць па вуліцы?..

...нна (глядзіць у вакно). Некага, мусіць, ...ітавалі, каб іх... (выцірае хвартухом вочы).

...гор. Цяпер-жа нядоўга. Чуць ступіў ня ...ім падабаецца, дык будуць у рабоце й бі...шампалы... дадуць, колькі ўлезе...

...ька. Сюды накіроўваюцца...

...та. Але-ж, сюды!.. Хто-ж бы гэта мог быць?..

...ка (раптам) Цётачка!.. Гэта-ж Сымон!..

...на (плача). І ўвесь зьбіты...

Рыгор (кідае лыжку, устае з-за стала). Дзе той Сымон, што вы плявузгаеце?

Галька (з жалем) Ах, Сымонка, Сымонка!..

### Зьява 4.

Уваходзяць два жандары і Сымон. Рукі у Сымона зьвязаны паперадзе вяроўкаю; на шчацэ вялікі шрам, з якога цякла кроў; адзеты ён чырвонаармейцам.

1-ы жандар. Дзень добры!.. Тут жыве Рыгор Кудзеля?..

2-і жандар. Ты, стары пес, то твуй сын?

Ганна (з плачам кідаецца да жандара). Паночак!..

Рыгор (з абурэньнем адпіхае Ганну). Ня лезь! (Да жандара). А ты, зладзюга, якое ма...

1-ы жандар (пхнуў Рыгора кулаком у грудзі). Пся крэў, стары пес! (Выхваціў рэвольвэр). Вы вшысцы ест заарыштованы! (Да 2-га жандара). Трэба зрабіць вобыск, зброя тут павінна быць!..

Абодва жандары пачынаюць шукаць. Ганна плача. Рыгор стаіць пасярод хаты й дрыжыць ад злосьці, сьціснуўшы кулакі. Галька з Сымонам выразна пераглядаюцца. Жандар шукаючы падыходзіць к сталу, адчыняе шуфляду й пачынае там рыцца, палажыўшы рэвольвэр на стале. Сымон, падаўшыся к Гальцы, штось ёй шэпча. Галька кідаецца к сталу, хапае рэвольвэр і ў упор страляе ў 1-га жандара, які валіцца. Ганна з перапугу кідаецца воб зямлю.

Галька (да 2-га жандара). Рукі ўверх! (Наводзіць рэвольвэр. Жандар падняў рукі і стаіць перапуджаны).

Сымон (на бацьку). Тата, разьвяжэце хутчэй рукі!...

Рыгор разьвязаў рукі. Сымон кідаецца з вяроўкаю да жандара й зьвязвае яму рукі. Рыгор падскаквае да жандара і пачынае яго біць па чым папала. Сымон адбірае ў жандара рэвольвэр і заткнуў яго сабе за пояс.

Сымон. Ну, годзе, тата, а то заб'еш!..

Рыгор (засопшыся). Так яму... і трэба...

Сымон. Ну, цяпер я звольнены... Але мая воля, пакуль што, будзе сярод лясоў і палёў...

Галька (кідаецца Сымону на шыю з плачам). Сымонка! Няўжо-ж нам яшчэ трэба расстацца?

Сымон (цалуе яе). Трэба, Галечка, трэба!.. (Забірае ў яе рэвольвэр). Бывай здарова, мілая! (Ганна ачухалася, устае). Бывайце здаровы ўсе!.. Выбачайце мне!...

Рыгор (паказвае на жандара). А з гэтым як будзе?

Сымон (паказваючы на забітага). Таго ў рэчку... вы самі... а гэтага я забяру з сабою! (Бярэ за каўнер). Ну, пойдзем! (Выходзяць).

(Рыгор цягне за ногі забітага).

ЗАСЛОНА АПУСКАЕЦЦА.

Канец.

**Юрка Доўгі.**



# ВЁСКА СЁНЬНЯ.

## Што было раней і што стала цяпер.

*В. Караваева, Сьмілавіцкі раён.*

Год таму назад вёска Караваева была самай цёмнай і някультурнай. Моладзь уся аддавалася пад самагонную гарачку. А дзе ёсьць самагон, там і сварка, і бойка і г. д.

Паглядзела моладзь, што ў другіх вёсках распаўсюджваецца культурная праца, а ў нас... Зразумела моладзь, што ў такой цемнаце жыць нельга і стала прабіваць шлях да новага жыцьця. Перадавая моладзь уступіла ў рады ЛКСМ (у Рудзенскую ячэйку). Комсамольцы, згаварыўшыся з беспартыйнаю моладзьдзю, дапрызыўнікамі і пераменьнікамі, распачалі культурную працу: адчынілі хату-чытальню, а пасьля і клюб. Шэф—рабочыя-мэталістыя гор. Менску—дапамаглі літаратураю, плякатамі, лёзунгамі, купілі сьцяг і шмат чым іншым. Цяпер пры хаце-чытальні існуюць гурткі: політычны, сельска-гаспадарчы і драматычны. У гурткох працуе амаль уся моладзь.

У клюбе часта ставяцца платныя і бясплатныя спэктаклі.

**Бульбянік.**

## Культпраца сярод нашае моладзі.

*Вёска Турэц, Меншчына.*

Да гэтага году наша моладзь была далёка ад усялякай культурнай працы і толькі ў гэтым годзе можна бачыць вялікі рух сярод нашае моладзі. Большасьць актыўных разам з настаўнікамі арганізавалі сялянска-гаспадарчы гурток, зрабілі колектыўную падпіску на газэты, на чытку якіх прыходзіць шмат і старэйшых. Выпускаем і сваю насьценную газэту, у якую піша наша моладзь. Вясною ў памяшканьні, якое стаяла пустым, адбудавалі наш клюб, дзе зрабілі сцэну і цяпер ставім спэктаклі. Уцягнуты ў гэту працу і тры дзяўчыны. Сяляне часта пытаюць, ці хутка будзе спэктакль. Ужо адбыліся 3 спэктаклі і зараз будзе чацьверты.

Адно нядобра, што ў нас толькі два комсамольцы, але хутка і гэта паправім: ужо шмат пагаварваюць аб уступленьні ў комсамол.

**Вёрткі.**

## За восім гадоў.

*В. Пліса, Смалявіцкі раён, Менск. акр.*

Што Кастрычнікавая рэволюцыя зрабіла вялікі пералом як у экономічным, так і ў культурным жыцьці вёскі—гэта вядома кожнаму. Напрыклад, возьмем нашу вёску Плісу і паглядзім, якою яна была пры царскай уладзе. Як выглядала в. Пліса?

Кожную нядзелю былі бойкі п'янай моладзі, а падчас і забойствы. Культурнай працы на вёсцы сярод сялянства і моладзі не вялося аніякай.

Першае месца займала самагонка і вечарынкі. У сучасны момант мы бачым зусім другое.

Не прашло і васьмі гадоў, як вёска Пліса аджыла. Цяпер першае месца займае клюб, хата-чытальня і інш. Бойкі, якія вельмі часта былі раней, можна сказаць, спыніліся.

Організована ячэйка ЛКСМБ, у якую ўцягнута лепшая перадавая моладзь вёскі і хутароў. Ячэйка працуе добра: праводзіць сходы беспартыйнае моладзі і г. д.

Гэтак сама існуе атрад Ю. П., які налічвае 30-ці дзяцей. Сяляне дзівяцца, гледзячы, як і замест таго, каб па вуліцы ганяць сабак, ў атрадзе. Існуе культурна-асьветны гур працуе досыць добра і складзен напало партыйнае моладзі.

Агулам кажучы, вёска Пліса за ап шмат і шмат культурна вырасла.

**Міх**

## Адчынілі спраўбюро.

*Матарова, Сьмілавіцкі раён.*

У зьвязку з цяперашняй падатковай к і новай політыкай адносна вёскі сярод сустракаецца шмат пытаньняў, разьвяза яны ня ведаюць дзе. Бачачы гэта, я рашыла прысьці на дапамогу і ад чытальні справачнае бюро, ку сваіх мацнейшых таварыш працу ў хаце-чытальні і разабрацца ў тых ці і

# СЯРОД КНІЖОК.

## „Асьцё“ *).

*(Што кажа вясковы хлапец аб творах крапівы.)*

У сучасны момант Усебеларускае Аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“ выдала і выдае цэлы шэраг твораў сваіх сяброў. Ужо вышлі ў сьвет вершы Чарота, Дубоўкі, Пушчы, апавяданьні Кузьмы Чорнага, Бабарэкі і г. д. і ў гэтым ліку вершы-сатыры маладнякоўца Крапівы.

Крапіва, які сам вышаў з сялянскіх гушчаў, гадаваўся і жыў у вёсцы, вельмі добра прымячаў усе тыя недахопы, старыя традыцыі, якімі жыве вёска, і ўсё гэта адбівае ў сваіх вершах-сатырах.

— Я не пясьняр! Я не мастак!—кажа Крапіва у першым вершы-зборніку.

Мой твор—ня твор: дзіця,
Мой сьпеў—ня сьпеў, а крык,
Але у тон
Пад камэртон
Жыцьця
Мой зык:
Я крыкну - ўраз
Па гушчах мас
Нясецца хваля рэх
І ў свой прабег
Раджае сьмех,
Здаровы сьмех.

Бязумоўна, нельга сказаць, што Крапіва не мастак. У сучаснай беларускай літаратуры ён адзін з выдатных сатырыкаў, зык якога сапраўды нясецца „пад камэртон жыцьця“; тэмы яго вершаў жыцьцёвыя, ад якіх часамі сапраўды нясецца сьмех, але разам з сьмехам мы бачым і навучаньне.

Старыя традыцыі, якімі жыве вёска, вера ў розныя забабоны прыводзяць часамі да кепскіх вынікаў:

Сем нядзель пасьціла Ўлюта,
Пад канец аж шчырым постам
(Верыць, бач, папом-прахвостам).
На вялікдзень з галадухі,
Пасьля бульбы й саладухі
Цётка Улюта як прысела,
Дык паўшынкі зразу зьела.

...акія здарэньні бываюць часта. У дадатак к ...у вера шаптунам прыводзіць да таго, што ...я памірае.

Пакуль той прывёў шаптуху,
Дык Улюта ўжо бяз духу.
Вось, браткі, была ёй мука!
Гэта, цётка, вам навука.

...ата вёскі, няўважныя адносіны да свайго ... прыводзяць да таго, што людзі хварэюць. ...кой вёсцы знойдзеш лазьню, і не да... ...піва піша:

Беларусь па вушы грязьне,
Але ў вёсках Беларусі
Днём з агнём ніводнай лазьні
Не знашоў-бы нават, мусіць.

Кастрычнік, які прынёс вызваленьне жанчыне, зрабіў яе роўнапраўнаю і даў магчымасьць працаваць разам з мужчынаю для будаваньня социялістычнага гаспадарства. Мы бачым на вёсцы актыўных жанчын, якія імкнуцца да працы, асьветы, але перашкодаю зьяўляецца гаспадар-мужык. За тое, што жонка дэлегатка, мужык б'е яе, падымае сварку і г. д., але жонка стаіць на сваім:

Лепш пайду к разводу,
А ня кіну сходу—
Адказала жонка
Голасна і звонка.

Мы бачым, якою перашкодаю жонцы, якая імкнецца да новага жыцьця, зьяўляецца мужык па сваёй несьвядомасьці, і Крапіва кажа:

Не чапай-жа, дзядзя,
Ты сваю кабету—
Пры савецкай ўладзе
Хай пaглядзіць сьвету,
Бо й табе лепш будзе,
Калі выйдзе ў людзі.

Імкненьне да новага жыцьця мы заўважваем на вёсцы. Новы быт, культура паступова, як крот, улазяць у вёску і займаюць пачэснае месца.

Даволі жыць у гразі разам з сьвіньнямі. Замест ліпкай гліны ў хаце будуецца падлога:

Паглядзеце вы на Ціта:
Вынес ён у хлеў карыта,
І падсьвін аў і сьвіней
Выгнаў з хаты і з сяней.
Ўзяўшы дзетак на падмогу,
Палажыў сяк-так падлогу,—
Не на жарты, мусіць, Ціт
Стаў заводзіць новы быт.

Але аднаго Ціта мала, і Крапіва кажа:

Тодар, Ян, Язэп, Мікіта!
Чым вы горшыя за Ціта?
Дык пачнеце-ж, як і Ціт,
Вы заводзіць новы быт.

Зборнік „Асьцё“ прынясе вяліку карысьць нашай вёсцы. Неабходна толькі болей распаўсюджваць яго і знаёміць сялянства. З мастацкага боку „Асьцё“ таксама падыходзіць да мас, чытаецца лёгка і з цікавасьцю, як і наогул усе творы Крапівы.

Наастатак трэба сказаць, што Крапіва—здольны сатырык, калючкі-асьцё якога далёка ўпіваюцца для зьнішчэньня ўсяго шкоднага, што перашкаджае жыцьцю.

Я. Жук.

*) ...дняк“ № 6. Выданьне Ц. Б. ...1 стр., ц. 15 кап.

...бы з цемрай, якая яшчэ дагэтуль пануе ў некаторых

...долееш весьці ўпартую барацьбу з пера-

# Аб павялічэньні тыражу „Маладога Аратага“.

## Распаўсюджваем „Маладыя Араты!“

*(В. Пліса, Смалявіцкі раён).*

За ўвесь час існаваньня нашай ячэйкі—ніводзін комсамолец ня выпісаў ніякай газэты, усё карысталіся газэтамі ад шэфа.

24 кастрычніка ячэйка пастанавіла, каб кожны комсамолец выпісваў сваю родную часопісь „Мал. Ар.“ Гэта пастанова ўжо ажыцьцяўляецца: сабраны грошы на выпіску, выбран упаўнаважаны па распаўсюджаньню „Мал. Ар.“ сярод дарослых сялян вёскі Пліса, а гэтак сама і сярод моладзі. Трэба, каб кожная ячэйка зрабіла так, як Пліская, адносна распаўсюджваньня часопісі „Мал. Ар.“

**Міхась Красоўскі.**

## Сорамна комсамольцам Капыскага раёну.

*(Аршанічына).*

У Капыскім раёне сяброў комсамолу налічваецца больш, як 300. Гэтыя 300 сяброў выпісваюць усяго толькі 8 экзэмпляраў „Маладога Аратага“.

З гэтага ліку наша Якуліцкая ячэйка выпісвае 6 штук. Сяброў у нашай ячэйцы—18.

А 10 іншых ячэек выпісваюць толькі 2 экзэмпляры „М. Ар.“

Многія, як відаць, ячэйкі зусім ня бачаць сваё роднае, комсамольскае часопісі, чаго ў далейшым ні ў якім разе быць ня можа.

Капыскаму райкому ЛКСМБ трэба пастарацца, каб кожная ячэйка мела ня менш, як 10 экзэмпляраў „Мал. Ар.“

**В. Мяжэвіч.**

## У ячэйцы ніводнага нумару „Маладога Аратага“.

*(М. Круглае, Аршанскае акругі).*

Круглянская сел. ячэйка, як ні сорамна, ня выпісвае ніводнага нумару сваёй часопісі „Маладыя Араты“, між тым, усе комсамольцы і беспартыйныя сялянскія хлопцы вельмі ёю цікавяцца. Акрамя таго, гэта ячэйка праводзіць працу сярод сялянскай моладзі мястэчка і бліжэйшых вёсак—„Маладыя Араты“ якраз дае парады ў гэтай галіне, што асабліва важна для ячэйкі, бо ў яе працы ёсьць шмат абмылак.

Круглянцам трэба трохі развярушыцца, каб не чырванець перад тымі, хто выпісвае і чытае часопісь „Маладыя Араты“ і на другі месяц выпісаць некалькі нумароў часопісі.

**П. Цішураў.**

## Падпісаліся на часопісь.

*(Астрашыцка - Гарадзецкая ячэйка ЛКСМБ пры сельсавеце).*

Да жніўня м-ца ў нашай ячэйцы, ня гледзячы на тое, што ўсе хлапцы сялянскія, „Маладыя Араты“ ніхто ня выпісваў.

У ліпені гэта пытаньне было пастаўлена на агульным сходзе ячэйкі.

Пасьля доўгіх спрэчак парашылі выпісаць усім комсамольцам „Мал. Ар.“ Сказана—зроблена: комсамольцы выпісалі „Мал. Ар.“, толькі некаторыя спазьніліся, але спадзяемся, што на чарговыя м-цы выпішуць.

А вось другая Астрашыцка-Гарадзецкая ячэйка пры райпрофбюро, дык і ня думае выпісваць. Сорам комсамольцам ад вытворчасьці ня ведаць аб жыцьці вясковай моладзі!

**Заслаўскі.**

# Як падпісвацца на комсамольскія выданьні.

Кожны ўпаўнаважаны па распаўсюджваньню комсамольскага друку, калі прымае падпіску, павінен кіравацца наступным:

1) Падпісная кампанія праводзіцца кожны месяц з 15-га па 1-ае.

2) Падпіска прымаецца на поўныя месяцы з 1-га па 1-ае на тэрміны ад аднаго да 12 м-цаў.

3) Упаўнаважаны, калі прымае падпіску, уносіць падпісчыка ў ведамасьць, якая зьмяшчае наступныя графы: а) паштовае аддзяленьне альбо горад, б) акруга, в) раён, г) сельсавет альбо вуліца, д) вёска альбо № дому і кватэры, е) прозьвішча і імя падпісчыка, ж) тэрмін падпіскі, з) лік экзэмпляраў кожнай газэты паасобку, і) сума, атрыманая ад падпісчыка.

4) Упаўнаважаны складае дзьве ведамасьці: адну на выданьні „Чырвоная Зьмена“ („Чырвоная Зьмена, „Маладыя Араты“, „Гвязда Млодзежы“, „Юнгэр Арбэйтэр“, „Піонэр Вэкэр“, і „Беларускі Піонэр“) і другую на ўсе іншыя комсамольскія выданьні („Комсамольская Праўда“, „Мал. Ленінец“ і інш.).

5) Запоўненыя ведамасьці на выданьні „Чырвоная Зьмена“ з паказаньнем якой ячэйкі разам з грашмі перадаюцца альбо перасылаюцца: у Менску—у Беларускае Контрагэнцтва друку (Савецкая, 63), у другіх гарадох і провінцыі—у бліжэйшыя паштовыя аддзяленьні і агэнцтвы Бел. Дзярж. Выдавецтва і Вайсковым выд. „Красная Звезда“.

6) Запоўненыя ведамасьці на ўсе іншыя комсамольскія выданьні перадаюцца ў бліжэйшыя паштовыя аддзяленьні.

7) Кожнага 10 чысла ўпаўнаважаны прысь[…] ў кантору выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ (Ме[…] Савецкая, 63) ліст, у якім паказвае колька[…] сяброў данай ячэйкі і якія комсамольскія га[…] выпісвае ўся ячэйка цалком у бягучым м-цы. […] гэтыя перасылаюцца бяз марак, за кошт […]вецтва „Чырвоная Зьмена“.

# Перапіска з нашымі супрацоўнікамі.

**Праежджаму** (пасёлак Рудзенск)—допіс аб тым, што ў Рудзенскай комсамольскай ячэйцы некаторыя сябры лічацца сялянскімі дзецьмі ў той час, калі яны гэтага ня варты і паходзяць з другой асярэдзіны, перасланы ў Менскі Акруговы Комітэт ЛКСМБ на расьсьледаваньне гэтай справы. Аб выніках паведамім у самым хуткім часе.

**М-р** (Беларуцкая яч. ЛКСМБ)—„сярод піонэраў“ перадалі ў газэту „Чырвоная Зьмена“. Іншыя допісы будуць выкарыстаны па вартасьці.

**Комсамолец А. Т. А.** (Калініншчына[…] бяз подпісу пад імі правільнага адрасу […] аддзяленьне, вёска, акруга, раён) і с[…] прозьвішча і імя нікім ня друкуюцца. П[…] прозьвішча і адрас—тады зьмесьцім […]

**Шпак Сяргей** (Дукора), […] чына), **Залуцкі Мікола** […] **зімірчык** (Верхмен[…]) **хась**—вам […] м-ц час[…]

Рэдактары:

1-я дзярж. друк. Зак. № 370—(1000).

# ГАЗЭТА „МАЛАДОГА АРАТАГА“.

## Там, дзе капітал.

### У Нямеччыне.

#### Монархісты Гіндэнбург — прэзыдэнт рэспублікі.

У выніку другога галасаваньня на прэзыдэнцкіх выбарах у Нямеччыне большасьць галасоў атрымаў Гіндэнбург — кандыдат монархістычных і другіх рэакцыйных партый, правая рука Вільгельма II; адзін з заядлых організатараў імпэрыялістычнай вайны.




Гэнэрал Гіндэнбург.

Соцыял-дэмократы разам з рэспубліканскімі партыямі, якія высоўвалі кандыдатуру Маркса—яшчэ раз прадэмонстравалі перад рабочай кляснй усяго сьвету сваю слабасьць і здрадніцкую ролю ў рэволюцыйным руху.

З выбарамі монархістагаГіндэнбурга на прэзыдэнцкае месца шлях лістападаўскае рэволюцыі 1918 г., які каштаваў не адну тысячу ахвяр нямецкаму пролетарыяту, можна лічыць скончаным.

Абраньне Гіндэнбурга не захавае міра, а хутчэй за ўсё прывядзе да новай бойні, да ўзмацненьня белага тэрору.

Кандыдатура комуністага Тэльмана як на першых, так і на другіх выбарах атрымала аднолькавы лік галасоў (1.800.000). Гэта кажа за тое, што працоўная кляса Нямеччыны мае рэволюцыйнае ядро, на долю якога падае кіраўніцтва будучай пролетарскай рэволюцыяй.

Політычныя колы эўропэйскіх буржуазных дзяржаў абраньнем Гіндэнбурга (гэнэрала мінулай вайны) нездаволены.

### У Баўгарыі.

#### Цанкоўская расплата.

**Сафійская** „процэдура“ прыходзіць к канцу. На скамейцы падсудных—прадстаўнікі рэволюцыйных груп Баўгарыі; сярод іх большасьць комуністых.

Баўгарскае правіцельства Цанкова падпісала прыгавар „віноўнікаў“ у ўзрыве царквы.

Па ўсёй краіне цягнуцца забойствы комуністых і рэволюцыйных кіраўнікоў сялянскіх партый.

У горадзе Плеўне расстрэлен правадыр мясцовай сялянскай партыі.

У горадзе Старой Загоры забіты 2 маладыя студэнты. У Сафіі (сталіца Баўгарыі) поліцыя напала на рабочы квартал. Зрабіла вялікі вобыск і зарыштавала 50 асоб.

Ня так даўно ў г. Пэштэры вайсковы атрад накінуўся на групу комуністых. Адзін комуністыСладкоў забіты. Салдаты адсеклі галаву забітаму, надзелі на штык і так пранесьлі па вуліцах гораду.

Як бачыце, кроў баўгарскіх рэволюцыянэраў льлецца ракою. Мы пэўны, што за такія „штукі“ баўгарскае сялянства і рабочыя адплацяць больш організавана.

**Кроўю комунараў і сьлязьмі дзяцей - вогнішча рэволюцыі не загасіць!**

### У Заходняй Беларусі.

#### Спробы пакражы ваенных папер.

Месяц назад у Горадні былі арыштаваны: Уладзімір Хведараў, Міхась Якабчук і Мікалай Шымбарэвіч за спробу выкрасьці сакрэтныя ваенныя паперы з штабу ваеннага вокругу ў Горадні. Сьледзтва скончана. Суд адбудзецца ў хуткім часе.

#### Як даюць беларускую школу.

*Носкаўская гміна, Пружанскага павету.*

Па ўсёй Носкаўскай гміне ўсё сялянства на адкрыцьцё беларускае школы адазвалася вельмі горача. Усе, як адзін, пашлі на сход дзеля таго, каб выбраць поўнамоцнікаў, якія-б клапаціліся аб роднай школе.

Бацькі дзяцей, якія ходзяць у школу, зложылі дэклярацыі, заверылі іх у гміне і здалі школьнаму інспэктару ў Пружаны. Але што-ж пасьля ўсяго гэтага робіць наш „паважаны“ войт пан Хацялоўскі?

А вось што: узяўшы з сабою аднаго ці двух поліцыянтаў, езьдзяць па ўсіх вёсках з такімі пытаньнямі: ці мелі дазвол ад старасты на сходку, на якой гаварылася аб адкрыцьці беларускае школы? Солтыс гаворыць, што не.

— Пся крэў! За гэта пакараю ўсю тваю вёску!—пакрычыць, патрасе бізуном войт і паедзе далей.

А пра школу ні слуху, ні духу.

Колькі-б трэбаваньняў ня пісалі, ўсё роўна яны ўсе апынуцца ў скрынцы з сьмяцьцём, якая стаіць у габінэце інспэктара школ.

І дакуль усё гэта будзе і калі яму прыдзе канец?

## Усясьветны комсамол.

### Польскі комсамол у падпольлі.

**(Артыкул польскага комсамольца для „Мал. Аратага“).**

Саюз цалком знаходзіцца ў падпольлі. Гэта значыць, што ён ня мае кватэры, дзе можна-б было сабрацца, што кожны член комсамолу павінен аглядацца назад—ці ня йдзе за ім поліцыянт. Ён павінен вясьці сябе тайна: яму нельга насіць з сабою політычных кніжак, газэт і інш.

#### Якую-ж працу вядзе саюз?

Перш за ўсё—політычную. Наш саюз змагаецца з другімі саюзамі панскіх сынкоў.

Апрача гэтай працы, ён прымае ўдзел ва ўсіх компаніях, якія праводзіць компартыя, як, напрыклад, 1 мая. У назначаны час тысяч 20 працоўнай моладзі выходзіцца ў адно месца.

Тут комсамол падымае свой сьцяг, раздаецца сьпеў „Інтэрнацыяналу“, і маніфэстацыя кратаецца з месца.

У хуткім часе дэмонстрацыя апынецца акружанаю поліцыянтамі, якія ад ног да галавы ўзброены аружжам. Поліцыя пушчае ў ход шашкі, стрэльбы. Мы энэргічна абараняемся. Пасьля такой схваткі мы налічваем многа комсамольцаў раненых і некалькі дзесяткаў арыштаваных.

З рэволюцыйнымі компаніямі цесна зьвязаны расклейкі бальшавіцкіх проклямацый. Гэта адбываецца заўсёды ноччу і патрабуе вялікай асьцярогі. У гэтай галіне працы больш сьмелыя і спрытныя таварышы твораць проста цуды (абклейваюць, напрыклад, адозвамі месцы, якія заўзята ахоўваюцца часавымі).

Сьцягі тут таксама іграюць не апошнюю ролю. Звычайна яны прымацоўваюцца на высокіх фабрычных трубах, на касьцёлах і г. д.

Цікава яшчэ, як наладжваюцца мітынгі. У такіх выпадках таварыш, пераадзеты ў другую вопратку, выступае з прамовай. Пасьля прамовы мы яго кругом абступаем, і ён скідае з сябе ранейшую вопратку, каб не пазналі поліцэйскія...

Два гады таму назад мы ня мелі ні аднаго комсамольца ў шэрагах польскай арміі. Зараз-жа колькасьць палкавых ячэек павялічваецца з кожным днём. Праца іх шырыцца.

Як прыклад, можна сказаць вось што: у час Ленінскага тыдню, гурток комуністычнай моладзі авіятарскага палка вывесіў на казарме сьцяг з надпісам: „Слава памяти нашего вождя—Ленина“...

Дарагія комсамольцы вольнай Беларусі! Вы маеце мажлівасьць абучацца грамаце, вольны адпачыць і іншае. Зусім інакшае жыцьцё наша.

Але блізак той час, калі польскі комсамол пад кіраўніцтвам компартыі вытурыць з сваіх абшараў паноў-абдзіралаў і зажыве вольным жыцьцём пад знакам „СССР“.

# ЧЫТАЙЦЕ!

## КОМСАМОЛЬСКІЯ ВЫДАНЬНІ!

**А. Александровіч.**

„Па беларускім бруку“. Збор вершаў. Менск—1925 г. 68 стар. Цана 25 кап.

**Вольны А.**

„Два“. Аповесьць з паўстанчэскага руху. Менск—1925 г. 68 стар. Цана 40 кап.

**Вольны А., Александровіч А.**

„Комсамольская нота“. Вершы. Менск—1924 г. 32 стар. Цана 25 кап.

**Дубоўка Ўл.**

„Строма“. Вершы. Выданьне „Наша Будучына“. Вільня—1923 г. 32 старонкі. Цана 20 кап.

**Дудар А.**

„Беларусь бунтарская“. Вершы. Менск—1925 г. 28 стар. Цана 20 кап.

**Зарэцкі М.**

„У віры жыцьця“. Збор апавяданьняў. Менск—1925 г. 192 стар. Цана 1 р. 50 к.

**Чарот М.**

„Завіруха“. Збор вершаў. Менск—1922 г. 136 стар. Цана 40 кап.

**Чарот М.**

„Веснаход“. Збор апавяданьняў. Менск—1924 г. 180 стар. Цана 1 р. 10 кап.

**Чорны К.**

„Апавяданьні“. Менск—1925 г. 56 стар. Цана 20 кап.

**Пушча А.**

„Раніца Рыкае“. Вершы. Менск—1925 г. 52 стар. Цана 15 кап.

**Бабарэка А.**

„Апавяданьні“. 48 стар. Цана 20 кап.

**Комсамольскі Сьпеўнік.**

32 стар. Цана 20 кап. (Друк. 2-е выданьне).

**Статут.**

Расійскага Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі. Цана 5 кап.

**Якім павінен быць комсамолец.**

48 стар. Цана 8 кап.

Уся вясковая моладзь, комсамольцы, маладыя земляробы, клюбы, школы, настаўніцтва, чытальні, кожная сялянская хата, — павінны выпісваць, чытаць і пісаць у сваю ілюстраваную часопісь

„МАЛАДЫ АРАТЫ“.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

на 1 м-ц ( 2 нум.). . . . . 15 к.
на 3 „ ( 6 нум.). . . . . 45 к.
на 6 „ (12 нум.). . . . . 60 к.

Адрас рэдакцыі „Маладога Аратага“
Менск, Комсамольская 25, тэл. 2-94.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:**

па ўсіх паштовых аддзяленьнях. Таксама прымае падпіску і Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва (Менск, Савецкая 63).

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—выходзіць 2 разы на месяц.**